наша
# свабода

№36(263) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

1 КРАСАВІКА 2002 году ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 2100-253, факс 2100-254

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

ВЕСТКІ



## Першы мінскі гіпермаркет паўстане на Ціміразева

У хуткім часе ў Мінску распачнецца будаўніцтва першага гіпермаркету. Яго эскізны праект 29 сакавіка быў ухвалены на архітэктурнай радзе ў Камітэце архітэктуры, горадабудаўніцтва і землеўпарадкавання Мінгарвыканкаму. Гіпермаркет агульнай плошчай больш за 27 тысяч квадратных метраў будзе размешчаны ў раёне вуліцы Ціміразева. На цакольным паверсе будзе размешчана аўтастаянка, на першым паверсе – заля па продажы прадуктаў харчавання, а таксама буцікі і невялікія прамтаварныя магазіны. Некалькі верхніх павярхаў будуць аддадзеныя пад офісы і гатэльныя нумары. Будаўніцтва гіпермаркету зойме паўтара года.

## Расійскія алмазы для Беларусі

Урад Расіі ўхваліў пагадненне аб пастаўках у Беларусь у 2001-2005 гадах неапрацаваных прыродных алмазаў. Яно прадугледжвае штогадовыя пастаўкі беларускім прадпрыемствам алмазнай сыравіны для ювелірных мэтаў акцыянернай кампаніяй *«АЛРОСА»* ў аб'ёме да 100 тысяч каратаў і для тэхнічных мэтаў з фонду ураду Якуціі ў аб'ёме ад 50 да 70 тысяч каратаў.

## Вялікі футбол увосень

Зацверджаны каляндар гульняў адборачнага турніру чэмпіянату Еўропы 2004 году ў 3-й групе, дзе выступіць зборная Беларусі. Першы свой матч наша каманда правядзе 8 верасня са зборнай Галандыі на полі саперніка. Другі матч дома з аўстрыйцамі 13 кастрычніка, а 16 кастрычніка мы згуляем з Чэхіяй на выездзе.

## Школьнік-тэрарыст

16-гадовы вучань сярэдняй школы № 8 Бабруйску асуджаны на тры месяцы арышту, а на яго бацькоў накладзены штраф больш за 500 тысяч рублёў. Гэты хлопец прызнаны вінаватым у хлуслівых паведамленнях аб небяспецы: летась ён тройчы паведамляў па тэлефоне аб выбуховым прыстасаванні, нібыта закладзеным у будынку школы. Між тым у маладога бабруйчаніна шмат «паплечнікаў»: сёлета на Магілёўшчыне было зафіксавана ўжо з дзесятак такіх «мініраваняў».

НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»
2110

## У Мінску будзе хмарачос

У айчынным домабудаванні чакаецца сапраўдная сенсацыя. Сёлета ў чэрвені ў Мінску пачне будавацца першы хмарачос. Узведзены гмах з 57 паверхаў будзе каля стадыёну «Дынама». А ўсяго ў наступныя 5 гадоў планецца збудаваць па адным хмарачосе ў кожным раёне сталіцы.

Узводзіць першы ў Беларусі хмарачос прыедуць амерыканскія будаўнікі – у прыватнасці, з Чыкага. Але кватэры ў ім купіць будзе нельга. Жыллё тут атрымаюць жыхары мікрараёну Шабаны. Рэч у тым, што каля дзесятка шабаноўскіх дамоў на самай ускраіне гораду неўзабаве знясуць, каб пабудаваць на іх месцы аквапарк.

Кірэй МАНУЙЛА

## Добра, што тэлевізар выключаецца

У траўні беларускія грамадзяне знойдуць у праграмах тэлеперадач яшчэ адну абрэвіятуру – каналу АНТ (Агульнанацыянальнае тэлебачанне). Гэтак назвалася нарэшце тое, што доўгі час існавала ў абяцаннях, пражэктах і праектах як БТ-2. Днямі ягоныя кіраўнікі (усё знаёмыя асобы!) прадэкларавалі канцэпцыю новагу каналу, што мусіць не проста скласці канкурэнцыю БТ і расейскім каналам, а стаць «лідэрам тэлевяшчання» ў Беларусі.

Калі Аляксандр Лукашэнка выдаў указ пра стварэнне яшчэ аднаго тэлевізійнага каналу ў нашай краіне, з тых, хто будзе на ім працаваць, было дакладна вядомае толькі адно прозвішча – колішняга кіраўніка беларускага тэлебачання Рыгора Кісяля. Напрыканцы мінулага тыдня ў яго з'явіліся паплечнікі: за генеральнага дырэктара – прадзюсер серыялу «Паскораная дапамога» з тэлекампаніі «ФІТ» Андрэй Астравух, за генпрадзюсера – дырэктар студыі «*ОКО*» Юрый Ігруша, за праграмнага дырэктара – былы генпрадзюсер БТ Ягор Хрусталёў, за кіраўніка службы інфармацыі – былы вядучы «Панарамы» на БТ Юрый Казіятка.

АНТ, паводле ягонага кіраўніцтва, мае існаваць як камерцыйны праект, «на ўтрыманне якога не плануецца выдаткоўваць бюджэтныя сродкі». Але пры гэтым 51% – кантрольны пакет акцыяў каналу належыць дзяржаве, 29% – «Беларусбанку» і яшчэ 20% – тэлекампаніі «ФІТ», багата праграм якой ідзе на БТ. Тут таксама варта згадаць, што сказаў Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з супрацоўнікамі Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі 27 сакавіка.

*Заканчэнне на стар.3*




# Хрыстос уваскрос!



Фота Ул.ШЛАПАКА

Прыгожымі пісанкамі віталі Вялікдзень і вясну беларускія каталікі

**НАША СВАБОДА готовит к выпуску аналитический еженедельник ПОЛИТИКА.**
**Предлагаемая ниже публикация осуществляется в рамках нового проекта.**

# Администрация провинциалов

## *Посредник между президентом и номенклатурой «заболел»*

*Президентская администрация переживает сегодня один из самых глубоких кризисов. Администрация практически выпустила из своих рук нити реального управления. А кадровое наполнение изо дня в день ухудшается – в отставку уходят яркие, хотя и неоднозначные, личности.*



Закат невероятной влиятельности администрации президента начался еще года полтора назад. При Михаиле Владимировиче Мясниковиче. Приход на должность руководителя структуры тишайшего Урала Латыпова, случившийся почти сразу после президентских выборов, придал процессу краха администрации немыслимое ускорение.

### Центр «Вселенной»

Администрация президента в Беларуси традиционно позиционировалась как едва ли не самый влиятельный исполнительный и законодательный орган власти. По крайней мере, она пыталась играть роль ведущего органа власти, реально определяющего правила поведения остальных игроков на политическом рынке. Именно администрация готовила окончательные варианты системообразующих законов, указов, декретов. За счет кулуарного давления подобная «законодательная база» – а проще говоря, белорусские правила игры – легализовывалась через формальные законодательные структуры. Администрация, по сути, тотально контролировала процессы принятия решений в отраслевых министерствах и в аппарате Совмина. Имея на руках такой козырь, как назначение или снятие с номенклатурной должности, администрация полностью контролировала региональные вертикали власти.

В какой-то момент администрация сосредоточила в своих руках все нити, так или иначе обеспечивающие жизнедеятельность государственного аппарата. Номенклатура – региональная, отраслевая – прекрасно понимала, что единственный центр подготовки и принятия решений сосредоточен на Карла Маркса, 38. Т.е. в кабинетах клерков администрации. Система управления стала абсолютно понятной и простой.

В политической среде распространено устойчивое заблуждение, что, дескать, все свои решения президент Лукашенко принимает единолично. Это не совсем так. Лукашенко, конечно, задает, так сказать, стратегические параметры. Однако он не в состоянии решить вопрос кадровых и функциональных задач без соответствующей информационной помощи. Именно такую помощь и обеспечивала ему элита президентской администрации. Прежде всего экс-глава ведомства Мясникович. Вне всяких сомнений, бюрократ никогда не понесет на подпись Самому готовое кадровое решение. Но за счет тонких манипуляций с информацией этот бюрократ, несомненно, подготовит решение в свою пользу.

Отметим также, что, наряду с попыткой подмять под себя все административные (и в какой-то степени законотворческие) функции, в самой администрации постоянно тлел конфликт различных «групп интересов». Этот конфликт следовало рассматривать как борьбу не только за сферы влияния, но, прежде всего, за право бесконтрольного доступа к телу А.Г. Конфликт сопровождался громкими внутренними скандалами, перманентными сливами компромата через «аналитические записки» на имя президента, периодическим подключением к конфликту элиты силовых структур и государственных СМИ.

*Окончание на стр.5*

Падпісны індэкс НАШАЙ СВАБОДЫ 63478

## Вышэйшая адукацыя ў цане

Апошнім часам у Беларусі расце попыт на спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй. Як паведаміла 29 сакавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску галоўны інспектар галоўнага ўпраўлення вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Міністэрства адукацыі Беларусі Галіна Хоцішава, найбольшую каштоўнасць сёння ўяўляе спецыяліст, які валодае, апрача асноўнай спецыяльнасці, замежнымі мовамі і камп'ютэрам. У сувязі з гэтым вырастае каштоўнасць другой адукацыі.

У апошнія гады ў Беларусі павялічылася колькасць ВНУ і колькасць абітурыентаў. Так, калі ў 2000 годзе сярэдні конкурс у ВНУ складаў 2,7 чалавека на месца, то ў 2001-м – ужо 3,4. Дзяржава дае грамадзянам права атрымаць адну вышэйшую адукацыю за кошт бюджэту, але за другую трэба ўжо абавязкова плаціць.

**Вольга АСІПЕНКА**

## Прыборка помнікаў культуры

Праграма мерапрыемстваў, прымеркаваных да Міжнароднага дня аховы помнікаў і славутасцяў (18 красавіка), была прадстаўлена на прэс-канферэнцыі, што адбылася 28 сакавіка ў Мінску ў штаб-кватэры Беларускага фонду культуры (БФК).

Сёлета Міжнародны дзень аховы помнікаў і славутасцей пройдзе пад дэвізам адзінства нацыянальнай культуры. Па прапанове ЮНЕСКА ён адзначаецца штогод, пачынаючы з 1982 года.

Сярод запланаваных акцый – добраўпарадкаванне прысядзібна-паркавых комплексаў (у тым ліку – Лошыцкага ў Мінску, былой сядзібы Агінскіх – у вёсцы Залессе Смаргонскага раёну Гродзенскай вобласці, у вёсцы Шчорсы Навагрудскага раёну Гродзенскай вобласці), могілак (Кальварыйскіх у Мінску і Старасямёнаўскіх у Віцебску), а таксама Касоўскага палацава-паркавага ансамбля ў Івацэвіцкім раёне Брэсцкай вобласці.

**Марат ГАРАВЫ**

## Заахвочванне дысцыплінаваных кіроўцаў




Фота IREX/ProMedia

У красавіку гэтага году ў гарадскім пасёлку Бараўляны Мінскага раёну будзе ўведзена ў дзеянне новая мабільная станцыя тэхнічнай дыягностыкі легкавых, грузавых аўтамабіляў і мікрааўтобусаў. Як паведамілі БелаПАНу ў Дзяржаўтаінспекцыі ўпраўлення ўнутраных справаў Мінаблвыканкаму, яе прапускная здольнасць складзе 8-10 аўтамабіляў у гадзіну. Аўтаматызацыя і камп'ютэрызацыя тэхагляду дазволіць за некалькі хвілін правесці поўную дыягностыку транспарту, аб'ектыўна ацаніць яго тэхнічны стан і зафіксаваць вынікі ў базе дадзеных. Зараз на тэрыторыі Мінскай вобласці дзейнічаюць пяць дыягнастычных цэнтраў на базе станцый тэхабслугоўвання: у Барысаве, Жодзіне, Салігорску і яшчэ два – у Мінскім раёне.

Паводле інфармацыі ДАІ, аналіз дарожна-транспартных здарэнняў паказаў, што менавіта няспраўнасць транспартных сродкаў нярэдка становіцца прычынай ДТЗ. Напрыклад, летась з гэтай прычыны адбылося 86 аварый, у якіх 20 чалавек загінулі і 97 – атрымалі раненні.

Апрача таго, паведамляе ДАІ УУС, для стымулявання кіроўцаў распрацавана і выраблена картка, якая будзе ўручацца ўдзельнікам тэхагляду, што прайшлі яго з першага разу і без заўваг. І хоць гэтая картка не дае яе ўладальніку ніякіх пераваг перад астатнімі кіроўцамі, яна зможа паінфармаваць інспектара, які спыніў транспарт, што за рулём знаходзіцца дысцыплінаваны вадзіцель. Як зазначаюць у ДАІ, практыка паказвае, што заахвочванне ў некаторых выпадках больш эфектыўнае, чым адміністрацыйнае ўздзеянне.

**Наталля КУЛАГІНА**

## Спекуляцыя на мэблі

У Варонежы выкрыта група махляроў, якія спекулявалі на аўтарытэце беларускіх вытворцаў мэблі.

Злачынцы, якія прадстаўляліся супрацоўнікамі гандлёвай фірмы, што займалася прыёмам заказаў на недарагую і якасную мэблю, прад'яўлялі грамадзянам, якія звярталіся да іх, каталогі мэблевых прадпрыемстваў Брэсту, Бабруйску і Віцебску, усяляк рэкламавалі зручнасць і нізкія цэны прадукцыі, а затым, сабраўшы грошы і паабяцаўшы выканаць заказ у тыднёвы тэрмін, зніклі ў невядомым кірунку. «Цэны, якія яны запрошвалі, былі ўвогуле параўнальныя з магазіннымі, – пракаментавала сітуацыю гарадское міліцэйскае начальства. – Так што на людзей дзейнічала, мабыць, імя вытворцы і рэкламныя каталогі мэблевых прадпрыемстваў. Хутчэй за ўсё, у варонежскіх магазінах проста не хапае беларускай мэблі».

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

## Допінг возьмуць пад кантроль

«Кіруючыся клопатамі аб захаванні здароўя спартсменаў і ў мэтах прадухілення выкарыстання забароненых сродкаў і метадаў у спорце», Савет міністраў Беларусі прыняў пастанову аб арганізацыі ў краіне допінгавага кантролю.

Міністэрству фінансаў даручана «штогод, пачынаючы з 2003 года, пры фарміраванні праекту рэспубліканскага бюджэту прадугледжваць мэтавае выдаткаванне бюджэтных сродкаў на фінансаванне работ па допінгавым кантролі спартсменаў нацыянальных (зборных) каманд Рэспублікі Беларусь у перыяд падрыхтоўкі да Алімпійскіх гульняў, чэмпіянатаў свету і Еўропы».

Камітэту па навуцы пры Савеце міністраў прадпісана «спрыяць Міністэрству спорту і турызму ў распрацоўцы навуковых праектаў, звязаных з фармакалагічным забеспячэннем спартсменаў высокай кваліфікацыі».

Да 1 траўня Міністэрства спорту і турызму павінна ўнесці ва ўрад прапанову аб падпісанні Канвенцыі супраць прымянення допінгу, прынятай 16 лістапада 1989 году Саветам Еўропы ў Страсбургу (Францыя). Да 1 ліпеня Мінспорту павінна прадставіць у Савет міністраў прапановы па ўнясенні ў беларускае заканадаўства зменаў, што прадугледжваюць ускладненне на міністэрства агульнага кіравання па арганізацыі допінг-кантролю, а таксама выкананне Міністэрствам аховы здароўя «мэтавых заданняў Міністэрства спорту і турызму па медыцынскім забеспячэнні рашэння пытанняў допінгавага кантролю».

Як паведаміў БелаПАНу першы намеснік міністра спорту і турызму Генадзь Аляксеенка, пастанова ўраду мае на мэце павысіць якасць допінг-кантролю ў Беларусі і скараціць адставанне ў гэтай галіне ад развітых краін. Паводле яго слоў, прынцыце дакумента было паскорана пасля зімовых Алімпійскіх гульняў у Солт-Лэйк-Сіці, дзе два беларускія спартсмены былі злоўлены на прымяненні забароненых прэпаратаў. «Плануецца стварыць антыдопінгавую лабараторыю на базе ўжо існуючай лабараторыі «Экасвет», – паведаміў чыноўнік. – Цяпер беларускія спецыялісты ў стане вызначаць наяўнасць у аналізах спартсменаў далёка не ўсіх забароненых прэпаратаў. Таму мы маем намер прыцягваць да працы ў гэтай сферы кадры з Акадэміі навук. Крыніцы і аб'ёмы фінансавання пакуль не вызначаны, аднак як адзін з варыянтаў разглядаецца інавацыйны фонд НАН».

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

## Сучасныя тэхналогіі ў Беларусі

Заўтра ў Мінску пачынае сваю працу 9-я міжнародная выстава «Беларусь: Тэлекамунікацыі, Інфармацыя, Бяспека, Офіс» (*TIBO*). Яна будзе доўжыцца чатыры дні. За гэты час экспаненты, што прадстаўляюць 200 фірмаў з 15 краінаў свету, пазнаёмяць беларусаў з апошнімі дасягненнямі ў галіне сучасных тэхналогіяў. Выстава пройдзе ў Нацыянальным выставачным цэнтры «Белэкспа», што на Янкі Купалы, 27.

Падчас *TIBO'2002* чакаецца прэзентацыя некаторых паслугаў, раней немагчымых у нашай краіне. Напрыклад, кампанія «Мабільная лічбавая сувязь» (гандлёвая марка *Velcom*) сумольна з *Ericsson* прадэманструе новую для Беларусі магчымасць выхаду ў сетку інтэрнэт праз мабільны тэлефон стандарту *GSM*. Кампанія «Белтэлекам» упершыню пакажа, як праз звычайную тэлефонную лінію забяспечыць доступ да інтэрнэту з надзвычай высокай хуткасцю – да 6 мегабітаў у секунду (*ADSL*-доступ).

У рамках *TIBO'2002* у памяшканні Нацыянальнай акадэміі навук пройдзе кангрэс па праблемах тэлекамунікацыі. На ім, паводле арганізатараў, плануецца абмеркаваць стратэгію фармавання інфармацыйнага грамадства ў Беларусі, якая будзе ахопліваць эканоміку, сацыяльную сферу, дзяржаўнае кіраванне.

Па выніках выставы і кангрэсу арганізацыйны камітэт будзе рыхтаваць аналітычныя запіскі для Савету міністраў.

Іншыя мерапрыемствы, што адбудуцца падчас выставы, – гэта конкурс інтэрнэт-сайтаў удзельнікаў *TIBO* і фінал нацыянальнага чэмпіянату па камп'ютэрных аўтагонках «Формула-1» на Кубак *TIBO'2002*.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Пажарны сігнал

У Барысаўскім раёне пачаліся працы па ўсталяванні аўтаномных пажарных апавяшчальнікаў, замене, а таксама рамонце электраправодкі і печаў у домаўладаннях грамадзян, якія маюць у гэтым вялікую патрэбу.

У гэтай катэгорыі – пенсіянеры, інваліды і адзінокія жыхары, чый даход не дазваляе самастойна правесці такія працы. Практыка паказвае, што пажары ад парушэння правілаў пажарнай бяспекі пры эксплуатацыі печаў і ад кароткага замыкання электраправодкі адбываюцца, як правіла, у дамах пенсіянераў.

Аднак найбольшая частка пажараў з гібеллю людзей (больш за 85%) па-ранейшаму адбываецца ад неасцярожнасці пры паленні, звычайна ў нецвярозым стане. Таму спецыялісты Міністэрства па надзвычайных сітуацыях лічаць: усталяванне аўтаномных пажарных апавяшчальнікаў, якія рэагуюць на дым і пры спрацоўванні выдаюць моцны гук, павінна на 60-70% знізіць колькасць пажараў з ахвярамі.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

## «Люфтганза» святкуе юбілей




Фота Udo KROENER/Lufthansa




*Дзесяць гадоў таму гэтая нямецкая кампанія стала першым замежным авіяперавозчыкам, што стаў працаваць з Беларуссю. 29 сакавіка 1992 году ў Мінску прызямліўся першы рэйс з Франкфурту-на-Майне.*

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі кіраўнік дэпартаменту замежных сувязяў кампаніі «Люфтганза» ў Еўропе і краінах СНД Пол Вандэрмур, сёння самалёты кампаніі робяць рэйсы па маршруце Франкфурт–Мінск–Франкфурт штодзень. За мінулы год паслугамі кампаніі скарысталіся амаль 56 тысяч чалавек. Маршрут абслугоўваюць самалёты «Боінг-737».

Генеральны прадстаўнік «Люфтганзы» ў Беларусі Катрын Пфайлер адзначае, што «рынак авіяперавозак у Беларусі мае значны патэнцыял для росту».

Летась увесь сусветны авіярынак адчуў моцны ўдар па сваіх інтарэсах – з-за тэрарыстычных актаў з выкарыстаннем самалётаў у Амерыцы 11 верасня мінулага году людзі сталі баяцца пералётаў. Адпаведна рэзка ўпалі даходы авіякампаніяў. 30 з іх проста спынілі сваё існаванне. Па звестках міжнароднай транспартнай асацыяцыі *IATA*, пасля 11 верасня авіякампаніі недалічыліся 10 мільёнаў пасажыраў, і ім давялося скараціць па ўсім свеце больш за 200 000 супрацоўнікаў. Аднак прадстаўнікі «Люфтганзы» ў Беларусі паведамляюць, што ім удалося летась падвысіць даходы ад перавозак на 3,6% у параўнанні з 2000 годам.

Дырэктар Нацыянальнага аэрапорту «Мінск» Сяргей Серадзюк паведаміў, што супрацоўніцтва з «Люфтганзай» – вельмі плённае для аэрапорту. Па ягоных словах, нямецкая кампанія неаднойчы дапамагала аэрапорту фінансава. У прыватнасці, яна пазычыла «Мінску» каля 300 тысяч даляраў на рэканструкцыю часткі аэравакзальнага комплексу па міжнародных тэхналогіях. Падругое, у 1999 годзе Нацыянальны аэрапорт «Мінск» апынуўся перад пагрозай страціць сваю 2-ю катэгорыю паводле класіфікацыі Міжнароднай арганізацыі грамадзянскай авіяцыі (*ICAO*) – святлосігнальнае абсталяванне ўжо не функцыянавала як мае быць. І тады «Люфтганза» выдзеліла «Мінску» беспрацэнтны крэдыт у паўтара мільёна нямецкіх марак на рамонт святлосігнальнай сістэмы.

С.Серадзюк паведаміў таксама, што сёння кампанія «Люфтганза» абслугоўвае каля 14% пасажыраў, што праходзяць праз Нацыянальны аэрапорт «Мінск».

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Баранавічы пераназавуць

Магчыма, увосень у Баранавічах пройдзе рэферэндум па пытанні змены назвы гораду. Ініцыююць плебісцыт жыхары, якія лічаць, што яна гучыць вельмі немілагучна. І ўжо сабрана 10 тысяч подпісаў баранавічан за тое, каб горад займеў іншую назву. Хутчэй за ўсё гарадскія ўлады прызначаць правядзенне гарадскога рэферэндуму на верасень.

Якая ж назва прапануецца замест Баранавіч? Гэта Чачот – у гонар вядомага беларускага паэта, сябра Адама Міцкевіча Яна Чачота, які нарадзіўся ў наваколлі Баранавіч.

**Барыс ГАЙДУК**

# Улада не гатовая да палітыкі супрацоўніцтва з Захадам

*Пасля «элегантных» прэзідэнцкіх выбараў мінулага году ў асяроддзі заходніх палітыкаў стала папулярнаю думка пра «пакрокавую стратэгію» ў дачыненні да Беларусі. Растлумачыць сэнс гэтай стратэгіі неаднаразова спрабавалі нямецкія сацыял-дэмакраты, часцей за ўсё спасылаючыся на прыклад «усходняй палітыкі» Вілі Брандта.*

Сама сабою думка пра тое, што саступкі кіраўніцтву СССР прывялі да яго «дэмакратызацыі», развалу імперыі і хуткага ўз'яднання Германіі, досыць спрэчная. Сапраўднай прычынай усеабдымнага крызісу позняга камунізму хутчэй была палітыка амерыканскага прэзідэнта Р.Рэйгана, які ўцягнуў СССР у чарговы віток гонкі ўзбраення. Сапраўдным адказам «лагеру сацыялізму» на ўсходнюю палітыку В.Брандта быў росквіт дзяржаўнага тэрарызму «чырвоных брыгадаў» і падобных да іх утварэнняў.

Нямецкім сацыял-дэмакратам не варта было забываць на яшчэ адзін прыклад палітыкі ўтаймавання дыктатараў. Прыклад гісторыі іх краіны. Гэта палітыка «ўтаймавання» Гітлера, якая скончылася сусветнай вайною. Трэба памятаць, што дыктатары адрозніваюцца не характарам, а толькі магчымасцямі іхных краінаў.

Альтэрнатыва «пакрокавай стратэгіі» – чатыры ўмовы, сфармуляваныя яшчэ ў 1999 г. Іх мэта тая самая, што і ў «пакрокавай стратэгіі» – адкрыць Беларусі шлях да дэмакратыі і квітнення. Але шлях гэты адкрываецца толькі ў тым выпадку, калі беларускі рэжым прадэманструе рэальную гатовасць устаць на гэты шлях. І вывесці Беларусь з той бездані, куды яна трапіла з яго ласкі. Атрымаць дапамогу з Захаду не для ўмацавання сваіх сілавых структураў, а для структурнай перабудовы эканамічнай і палітычнай сістэмы краіны.


Фота IREX/ProMedia

Не варта забываць гэтыя простыя і лёгкія ўмовы «памілавання» рэжыму. Першая – усталяванне клімату даверу ў краіне. Г.зн. спыненне палітычных рэпрэсіяў і палітычнай хлусні ў дзяржаўных СМІ. Другое – доступ апазіцыі да дзяржаўных СМІ, якія датуюцца ўсімі грамадзянамі рэспублікі, а не асабіста Лукашэнкам. Доступ хаця б у тых мінімальных аб'ёмах, на якія была дамова апазіцыйных партыяў з памочнікам Лукашэнкі М.Сазонавым яшчэ ўвосень 1999 г. Трэцяя – змена выбарчага заканадаўства з тым, каб розныя выбары сталіся сапраўды сумленнымі і адкрытымі. Чацвёртая – пашырэнне функцыяў парламенту. Хаця б у форме тых «палатаў», якія існуюць.

Назваць гэтыя ўмовы цяжкімі і абразлівымі для гордай Беларусі ніяк нельга. У той ці іншай ступені яны рэалізаваныя ўва ўсіх нашых суседзяў. Гэта ўмовы дэмакратычных краінаў, ад якіх Беларусь магла б чакаць дапамогі. Рабіць выгляд, што нам гэтая дапамога непатрэбная, хутка будзе немагчыма.

**Дык у чым жа справа?**

Менавіта гэта хацела высветліць дэмакратычная апазіцыя 24 сакавіка, праводзячы даўно запланаваныя і падкрэслена мірныя акцыі. У Мінску было вырашана адзначыць 84-ую гадавіну БНР ускладаннем кветак да помнікаў паэтам Янку Купалу і Якубу Коласу. Але аказалася, што для пераходу ад аднаго помніка да другога па ходніках і без перашкоды руху транспарту неабходна браць дазвол у Мінгарвыканкаме. Таму «хадакоў» збілі і затрымалі шматлікія міліцыянты і амон. І часткова пасадзілі ў «бамжатнік» на Акрэсціна.

Яшчэ больш дзіўным чынам развіваліся падзеі ў Гродне. Заяўка на правядзенне мітынгу была здаволена. Але ў платнай залі, а не ў бясплатным парку. Г.зн. было прапанавана купіць у рэжыму гарантаванае Канстытуцыяй права. Усё астатняе адбывалася па мінскім сцэнары. Парк атачылі, мітынг блакавалі, і шмат якія ягоныя ўдзельнікі былі затрыманыя на выхадзе з парку. Нават тыя, хто ішоў пакласці кветкі да помніку паўстанцам за свабоду Беларусі.

Прадстаўнікі рэжыму апраўдваюць відавочныя і грубыя (а часта бессэнсоўныя) парушэнні правоў чалавека спасылкамі на Гайд-парк, калі на ўсе заяўкі на правядзенне мітынгаў у Мінску даюць «дазвол» праводзіць іх у раёне плошчы Бангалор. Забываючыся на тое, што на мітынг у Гайд-парку ніякага дазволу браць не трэба. І калі мінскія гараданачальнікі так ужо хочуць завесці свой Гайд-парк на плошчы Бангалор, то павінны самі як мага часцей выступаць тут з тлумачэннямі свайго разумення дэмакратыі і свабоднай рыначнай эканомікі. Думаю, што гэта прывабіла б туды не меней слухачоў.

На фоне бессэнсоўнага і злобнага парушэння элементарных правоў чалавека асабліва цынічна гучыць заява «кіраўніка дзяржавы» пра спыненне «палачнай дэмакратыі». Заявы, верагодна, разлічанай на даверлівых нямецкіх сацыял-дэмакратаў. Але рэальныя дзеянні рэжыму А.Лукашэнкі самым пераканаўчым чынам сведчаць пра ягоную негатоўнасць да выканання нават першай найлягчэйшай умовы – усталявання клімату даверу ў грамадстве. Значыць, пра ягоную негатовасць да правядзення «палітыкі разрадкі» адносінаў з дэмакратычнымі дзяржавамі Захаду.

**Юры ХАДЫКА,**
**прафесар**

## 3 года без Геннадия Карпенко



**ПОМНИМ! ВЕРИМ! ПРОДОЛЖАЕМ!**

**7 апреля, 11.00-12.00**

**Минск, Октябрьская площадь**
**Молодечно, Центральная площадь**

6 красавіка спаўняецца тры гады з дня смерці Генадзя Дзмітрыевіча Карпенкі, палітыка, вучонага, Чалавека з вялікай літары. У гэты дзень сябры Аб'яднанай грамадзянскай партыі, дэпутаты Вярхоўнага Савету, знаёмыя і блізкія ўскладуць а 8:30 раніцы кветкі на яго магілу.

7 красавіка ў Мінску на Кастрычніцкай плошчы з 11:00 да 12:00 і ў Маладзечне неабыякавыя людзі стануць у ланцуг памяці, каб сказаць: МЫ ПАМЯТАЕМ ВАС, Генадзь Дзмітрыевіч, МЫ ВЕРЫМ, што загадка смерці будзе раскрыта, МЫ ПРАЦЯГВАЕМ тое, за што змагаўся Генадзь Карпенка.

**Прэс-служба АГП**

**ЭМІГРАЦЫЯ**

# Туды, дзе бяспека і воля

*Маладая актывістка Аб'яднанай грамадзянскай партыі Наталля Брэль з Рэчыцы папрасіла палітычнага прытулку ў Бельгіі. Яна пакінула свой горад з прычыны пераследу мясцовай пракуратурай і судом.*

Апошнія шэсць месяцаў Наталля Брэль знаходзілася пад падпіскай аб нявыездзе. Такую меру Рэчыцкая пракуратура выбрала ў дачыненні да маладой актывісткі пасля таго, як 30 жніўня мінулага году ўзбудзіла крымінальную справу за абразу прэзідэнта. Якраз у гэты дзень Наталля з іншымі маладымі рэчычанамі праз гарвыканкам перадала да дня народзінаў Аляксандра Лукашэнкі скрынку з падарункамі, сабранымі моладдзю.

Падарункі гарвыканкам адрасату не даслаў, а перадаў у пракуратуру. Там і зрабілі выснову, што сабраныя рэчы – шнур для бялізны, завязаны ў форме пятлі, з паштоўкаю і адмысловым пажаданнем, белы батон, зубная паста і шчотка, туалетная папера, два алоўкі, пластмасавая лінейка з прымацаванай паштоўкаю – прыніжаюць гонар і годнасць кіраўніка дзяржавы.

Подпісы на каляровых паштоўках следчы Дзям'янчык нагогул расцаніў як паклёп. Такім чынам Наталлю Брэль, аспірантку Інстытуту гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, абвінавацілі ажно па двух артыкулах Крымінальнага кодэксу – абраза і паклёп на прэзідэнта.

За падарункі Наталля правяла трое сутак за кратамі, але абвінавачаньняў не прызнала і ў суд не з'явілася.

Суддзя Рэчыцкага гарадскога суду Анатоль Стрэльчанка вынес пастанову пра часовае спыненне разгляду крымінальнай справы супраць Наталлі Брэль. Матэрыялы вернуты назад у пракуратуру для арганізацыі пошуку адказчыцы.

Тым часам маладая аспірантка знайшла прытулак у Бельгіі.

Днямі мне ўдалося паразмаўляць з ёй праз тэлефон.

– Я да апошняга спадзявалася, што ўсё абыдзецца, – распавяла спадарыня Брэль. – Я не верыла, што да гэтага дойдзе, што мне давядзецца пакінуць Беларусь.

Натуральна, спытаў пра настрой, самаадчуванне.

– Настрой досыць аптымістычны, бо я ў бяспецы.

Пра вучобу ў аспірантуры Наталля згадвала з прыкметнай скрухай. Брэль даследавала ўсходнюю палітыку знакамітага князя Альгерда, сына Гедыміна. Тэма гэтая мала вывучана, а першакрыніцы знаходзяцца ў сучаснай Літве і Польшчы, куды з прычыны падпіскі выехаць было немагчыма.

Цяпер Наталля марыць павучыцца ў якім-небудзь універсітэце і атрымаць еўрапейскую адукацыю.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ**



# Добра, што тэлевізар выключаецца

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Ён заявіў, што не толькі БТ, але і БТ-2 (цяпер АНТ) з СТВ павінны працаваць на дзяржаўную ідэалогію. Які ўжо тут камерцыйны праект?!

Вяшчаць Агульнанацыянальнае тэлебачанне будзе на частаце, якую займае *ОРТ*. Якім чынам будзе дзяліцца гэтая кнопка? Праграмы расійскага каналу захаваюцца, адно што яны будуць перастаўляцца, каб іх прагляд быў зручнейшы для беларускага гледача, зважаючы на розніцу ў паясным часе паміж Масквой і Мінскам. Апрача таго, АНТ прапануе беларусам уласныя праграмы, у прыватнасці, выпускі «Нашых навінаў». Натуральна, што ў такім разе АНТ мусіць атрымаць большую папулярнасць, чымсьці БТ, бо дзякуючы высокаму глядацкаму рэйтынгу ў Беларусі *ОРТ* будзе валодаць большай аўдыторыяй. Паводле глядзельнасці ў нашай краіне гэты канал ідзе на першым месцы.

Акрамя Кісяля, Казіяткі, Хрусталёва на АНТ могуць з'явіцца і яшчэ колькі былых кадраў з БТ, дзе апошнімі месяцамі назіраецца самы масавы за ўсю гісторыю існавання беларускага тэлебачання адток кадраў. Сёлета канал пакінулі дзесяткі чалавек – ад генеральнага прадзюсера Ягора Хрусталёва да кіраўніка дырэкцыі спартовых перадач Уладзіміра Шпітальнікава. І звальненні працягваюцца: у многіх у сакавіку, красавіку і траўні сканчаюцца кантракты. Нехта сыходзіць з працы на Макаёнка, 9 на ўласнае жаданне, хтосьці міма сваёй волі. Між тым незадаволенасць такой «кадравай каруселлю» выказаў сам Аляксандр Лукашэнка. Пра якасць прадукту, які дае Беларускае тэлебачанне, і казаць няма чаго. Так што старшыні БТ Ягору Рыбакову трэба ўстрывожыцца за сваё месца, дзе ён цудам утрымаўся пасля правальнага навагодняга шоу. Пакуль жа навідавоку тое, што замест сталічных прафесіяналаў, якія сыходзяць, ён бярэ на працу людзей з рэгіёнаў, як ён сам (да прыходу на БТ ён узначальваў Магілёўскае абласное тэлебачанне). У тым ліку ў кіраўніцтва. Нядаўна генеральным прадзюсерам тут стаў былы кіраўнік гомельскага аб'яднання Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі Віктар Маючы. Зараз на БТ зноў, як гэта бывае штогод, гаворыцца пра змены, напрыклад, пра павелічэнне ток-шоу і жывых эфіраў.

Людзі сыходзяць з БТ хто куды – на пенсію, на вуліцу, у газеты... Тэлевізійшчыкаў можна пашкадаваць – на іншыя каналы АНТ і СТВ мала каго цягне. Яшчэ менш бы іх апынулася там, каб былі іншыя годныя варыянты працаўладкавання і каб не трэба было карміць сем'і, бо АНТ загадзя называюць клонам БТ, СТВ наогул – «дзіцячым тэлебачаннем», якое ўсур'ёз не ўспрымаюць.

Сярод тых, хто вырашыў пайсці з Беларускага тэлебачання, – журналісты Ганна Арцюшкевіч і Віталь Сямашка. Вось што, паводле іх, робіцца зараз на Макаёнка, 9.

**Ганна АРЦЮШКЕВІЧ:**

На Беларускім тэлебачанні прыстойнаму і разумнаму чалавеку працаваць невыносна цяжка. Гэта гармідар нейкі. Таму некаторыя сыходзяць адсюль самі. Іншых звальняюць. Прычым крытэрый, па якім гэта робіцца, – зусім не палітычныя погляды і нязгода. Выкідаюць і тых, хто ўгодны. Пакідаюць і бяруць на БТ тых, хто якраз ніякай уласнай пазіцыі не займае, хто гатовы рабіць і гаварыць, што скажуць і ўкажуць. І ўсе тры каналы – БТ, АНТ і СТВ – у гэтым плане будуць як блізняты: ідэалагічныя патрабаванні агучаныя аднолькавыя. Таму, на маю думку, на некалькі бліжэйшых гадоў на электронных СМІ Беларусі можна паставіць тлусты крыж.

**Віталь СЯМАШКА:**

Я, можна сказаць, уцякаю з БТ, бо не лічу годным для сябе быць у камандзе Рыбакова. І рэч не ў палітыцы і ідэалогіі. А ў прафесійным плане. Тут ні Б, ні Т – ні беларускасці, ні тэлебачання. За 2 гады рыбакоўшчыны і хрусталёўшчыны разбураныя ўсе традыцыі тэлевізійнай журналістыкі. Паглядзіце, што робіцца ў эфірнай сетцы? На 3 гадзіны – болей за 20 хвілінаў анонсаў, круцяцца безгустоўныя фільмы за 50 даляраў, а 90% неінфармацыйнага часу – прадукцыя недзяржаўных кампаній. Свае ж людзі адхіленыя ад эфіру, ад працы, праграмы збоку купляюцца па завышаных коштах. Усё гэта дае падставы многім гаварыць пра карупцыю ў кіраўніцтве БТ.

Каб доўга не разважаць, што такое прафесіяналізм, якога амаль не засталося на БТ, скажу адно. Раней у нас былі людзі і праграмы, якія станавіліся пераможцамі на розных міжнародных тэлевізійных конкурсах. Апошнім часам ніводнага такога выпадку. Замест прафесіяналаў гуртам набіраюць магілёўскіх, гомельскіх, берасцейскіх хлопчыкаў. Гэтую практыку запачаткаваў яшчэ Кісель. Маўляў, не будзе працаваць, – набярэм людзей з вуліцы. Адсюль узровень БТ, які мы маем.

**Кірэй МАНУЙЛА**

 

# Новы крок да картак



*У Мінску будзе створанае адкрытае акцыянернае таварыства «Нацыянальны працэсінгавы цэнтр». Дамова аб гэтым была падпісаная 29 сакавіка ў Нацыянальным банку Беларусі.*

Працэсінг – гэта апрацоўка звестак аб аперацыях, праведзеных з дапамогаю пластыкавых картак. Ён уключае збор, апрацоўку і рассылку ўдзельнікам разлікаў інфармацыі па аперацыях з карткамі, якую заклікана ажыццяўляць працэсінгавы цэнтр. Такім чынам, стварэнне адзінага працэсінгавага цэнтру мусіць паспрыяць развіццю ўжывання пластыкавых плацёжных картак у нашай краіне.

Паводле інфармацыі Нацбанку, дамову аб стварэнні ААТ «Нацыянальны працэсінгавы цэнтр» падпісалі першы намеснік старшыні Нацыянальнага банку Павел Калаўр, старшыня «Беларусбанку» Надзея Ермакова, кіраўнікі іншых беларускіх банкаў і прадпрыемстваў.

«Нацыянальны працэсінгавы цэнтр» зоймецца не толькі развіццём сістэмаў разлікаў «пластыкавымі грашыма». Ягоная мэта – стварыць маштабную сетку плацёжных тэрміналаў (месцаў, дзе можна разлічвацца па картцы) і банкаматаў (апаратаў, праз якія з карткі можна зняць наяўныя грошы), а таксама знізіць выдаткі кожнага асобнага банку на ўкараненне карткавага бізнесу.

Дагэтуль кожны банк мусіў самастойна займацца тэхналагічнымі аперацыямі, звязанымі з абслугоўваннем адпаведнага абсталявання ў сваіх аддзяленнях, у прадпрыемствах гандлю і сэрвісу, з забеспячэннем падтрымкі аперацыяў па картках 24 гадзіны ў дзень, апрацоўкай інфармацыі па аперацыях і г.д. Натуральна, што перанос гэтых высілкаў у адзіны цэнтр дазволіць банкам зрабіць някепскую эканомію, а ў выніку кошт адпаведных паслугаў для кліентаў мусіць знізіцца.

Нагадаем, што апошнім часам усё часцей вядуцца размовы пра ледзьве не 100%-ы пераход выплаты заробкаў, пенсіяў, стыпендыяў і іншых плацяжоў з наяўнай формы на карткавую. Таму стварэнне цэнтру, які б рабіў аперацыі з карткамі зручнейшымі і таннейшымі, выглядае цалкам своечасовым і карысным.

**Міхась КАРПОВІЧ**



Фота Ул. ШЛАПАКА

# Дзірка ў плоце

## *Дзе сярэдні беларус хавае тое, што не паспявае патраціць у крамах*

*Здольнасць пераймаць зрабіла чалавека. Гэтая здольнасць падаецца смешнай у малпах і папугаях. Яна выклікае замілаванне ў спробах дзіцяці імітаваць дарослых. Але ўсё добра да пэўнай мяжы.*

Штогадовы прыпадак інтэграцыі ўжо не смешны. Бо покуль усенароднаабраныя давалі адзін аднаму ўрокі дэмакратыі, білі келіхі, выкопвалі памежныя слупочкі і лаяліся, недзе ішла інтэграцыя. І тамтэйшыя лукашэнкі і пуціны, цыганковы і барадзіны, што нічым не адрозніваюцца ад тутэйшых, зрабілі еўра і Еўропу без межаў.

Некалі здавалася: кіраваць стануць багатыя – жыць усім будзе лепей. Сёння наш камандзір жыве не горай за арабскага шэйха, а толку? Пра маскоўскіх няма чаго і казаць. Супроць іх шэйхі – калгаснікі. А Еўропа паміж намі не атрымліваецца. Ужо і эканоміку перабудавалі, і забыліся на Карла Маркса з ягоным спонсарам Энгельсам, і начыталіся Кейнсаў ды Самуэльсанаў. Паслухаеш, шыкоўна гучаць начальнічкі. Сам спрабаваў і вам, шаноўныя, раю: чытайце іншы раз, не часцей чым праз пяць гадоў, афіцыйныя паведамленні пра шлях да светлай будучыні. Лёгка зразумееце, што не будзе паміж намі Еўропы, нават калі страшны монстр *NATO* дапаўзе да Енісею. Гадоў яшчэ трыццаць.

Спытаецеся, чаму? Адказ у філасофіі тутэйшай улады, выхаванай і загартаванай камуністамі. Іхныя вучоныя дарадцы вычыталі ў нейкіх кніжках, што ёсць спосаб пабудаваць рай на Зямлі праз пашырэнне ўнутранага попыту. У перакладзе на людскую мову гэта значыць: каб болей людзі зараблялі.

Толькі вось, каб разумець сэнс слова «зарабляць», трэба мець пэўны досвед: умець штонебудзь вырабіць, зрабіць, прадаць. Выкармкі КПСС такога досведу не маюць, яны, цытуем урадавы сайт, могуць: «*повышать*», «*расширять*», «*усиливать*», «*формировать*». Яшчэ яны выключна добра ўмеюць абяцаць.

Прыкладам, стабілізацыяй цэнаў у нашай краіне занятыя сотні і сотні суворых суб'ектаў. А цэны растуць хутчэй, чым дзе. Не меншая па колькасці зграя сілавікоў і слабавікоў апанавала адказны ўчастак гаспадарчага фронту – паляпшэнне фінансавага становішча прадпрыемстваў. Апошнім ужо дзесяты год абяцаюць рэструктурызацыю і зніжкі ў падатках. Вынікі відавочныя, стан чвэрці гарадскіх і палова вясковых дзяржпрадпрыемстваў стабільны, як у нябожчыка перад пахаваннем.

Павышэнню маіх і вашых прыбыткаў спрыяюць дзядзькі, адказныя за нашую самазанятасць, пашырэнне дзяржаўнай падтрымкі нашай ініцыятывы, стварэнне ўмоваў дзеля ўкладання нашага капіталу, спрашчэнне ўмоваў нашай рэгістрацыі і фармаванне канкурэнцыі. Яны настолькі занятыя гэтымі адказнымі дзяржаўнымі справамі, што совацца да іх граматам будзе крыўдна, таму іх клапоцяцца й пра... сяньне цвярозага розуму нат і не спрабуюць. Дзівакі ж і розныя летуценнікі атрымліваюць адпаведны адлуп.

Карацей кажучы, з камсамольскім агеньчыкам жыве Беларусь. Каб можна было сеяць з дапамогай запазычанасці па зарплаце, то канадцы б гэтай восенню плакалі. На тое гледзячы, айчынныя пагоншчыкі масаў вырашылі выраўняць эканоміку з Расіяй і пад народныя вілы праз тое не патраціць.

А што ў той Расіі чуваць пра ўнутраны попыт? Дык расце, хай ім Бог памагае. Во, – у пятніцу той самы Міхаіл Касьянаў казаў свайму ўраду, – расце і расці будзе. Бо ў іх, напрыклад, у гандлі з Беларуссю станоўчае сальда за мінулы год пад паўтара мільярда даляраў, а ў Беларусі той – наадварот. Зніжаецца ў іх роля знешняга чынніку, у нас – расце.

Каб быў добры попыт, кажа расійскі гаспадарнік, трэба новыя рабочыя месцы ствараць. Ён мае на увазе зусім не вопыт слаўнай Магілёўшчыны, дзе беспрацоўных вырашылі на вёску выперці, каб па горадзе не бадзяліся. Яны ж нават на «Крыжачок» унутранага попыту не ствараць у тых галодных калгасах. Месца такое патрэбна, каб на ім сам зарабіў, каб гаспадару прыбытак прынёс, а той гаспадар з табою разам сплаціў дзяржаве нармальны падатак. Во якое месца.

А дзе ў нас гэткае месца? Хіба рускія прыйдуць і нам зробяць? Не чыталі нашыя камсамольцы Карла Маркса і ягонага спонсара Энгельса. Не прыйдуць і не зробяць. Няўжо начальнічкі свае грошы і сваіх дзетак туды прусць, дзе рызыка ёсць іх страціць? Не, туды яны вашы грошы прусць і вашых дзетак.

Яшчэ хочуць расійскія натуральныя манаполіі ўдасканаліць. І таксама перадаць вопыт Беларускай чырванасцяжнай і ардэнаноснай чыгункі чамусьці адкідаюць. А ён такі канкрэтны: начальніка – на нары, цэны – угару. Народ, ён жа – сіла. Можа ўсе білеты купіць і ўсіх начальнікаў, што ў турме, што на волі, пракарміць. Дык не, кажа Касьянаў, натуральным манаполіям трэба выдаткі скарачаць.

Вось і давялі дэмакраты Вялікую Русь да таго, што не засталося ў ёй славянскага смаку, таямніцы не засталося. Не тое, што ў нас.

Атрымаў кожны беларускі працоўны па 100 варожых у.а. і пацягнуў іх у дзюбе дадому. Падзяліў з жонкай на кучкі і ўзяўся траціць. Сярэдняя сям'я растрачвае ў сярэдні месяц баксаў каля 130. За год прыкладна 1 600. Усе разам – больш за 5 мільярдаў паўнавартасных амерыканскіх даляраў.

Колькі зарабляе сярэдні беларус і дзе ён хавае тое, што не паспеў патраціць, не ведае нават Савет бяспекі. Таму ў лютым рознічны тавараабарот склаў 450 мільёнаў даляраў, з іх 180 на рэчавых і харчовых рынках. З тых сумаў нашае грамадства 2/3 праела і дзявятую частку прапіла, але палова спажыўцоў казёнку забылася як купляць, п'е сваю. Да таго ж насельніцтва карысталася паслугамі натуральных манаполіяў, ездзіла да сястры і цешчы, званіла швагру, хадзіла ў цырульню і купляла валюту.

А начальству так хочацца, каб куплялі мы ўдвая болей, ды ўсё мясцовага вырабу, ды каб падняліся прадпрыемствы, каб даіліся каровы і не плакалі дванаццаць тысячаў сіротаў пры жывых бацьках. Начальства ж нам не з лесу прывезлі і не з Амерыкі. Яно добрае, але не ведае, як нам прадаць зрабіць.

Плоту вакол няма. Дзіркі ў плоце няма, каб падглядзець, што суседзі робяць. Яны ж, суседзі, каб ім добра жылося, нібыта і не хаваюцца...

Вось і пачынаецца інтэграцыя. Мабыць, ад яе ўнутраны попыт як папрэ, як папрэ. Мы ж з рускімі ўсё робім, як французы з немцамі. А можа і не...

**Юзік ЛАБЭЦКІ**

# На першым месцы – пранцы

*У наступным годзе Мінскі скурна-венералагічны дыспансер будзе адзначаць сваё 80-годдзе. Ён быў адчынены «Чырвоным крыжам» яшчэ ў 1923 годзе. Тады там працавалі два лекары, памочнік лекара і некалькі медсёстраў. Хворых у той час было няшмат, але патраціць туды на лячэнне лічылася справай ганебнай. Хворых на пранцы трымалі ў палатах за кратамі, як злачынцаў. У адрозненне ад мінулых дзесяцігоддзяў, цяпер Мінскі скурна-венералагічны дыспансер ужо не так адпуджвае людзей. Да венерычных захворванняў пачалі ставіцца, як і да іншых хвароб. Мо таму, што звыкліся.*

На пытанні карэспандэнта НАШАЙ СВАБОДЫ адказвае галоўны лекар дыспансера Юрый Салук, які працуе ў дэрматалогіі з 1978 году.

***– Спадар Юры, прааналізуйце, калі ласка, становішча з захворваннем на венерычныя інфекцыі на сёньняшні дзень.***

– Захворванне на пранцы за 2001 год па Мінску знізілася на 14%, было зарэгістравана 1 365 чалавек, у той час як у 2000 годзе было 1 509. Па рэспубліцы за 2001 год зарэгістравана 8 024 выпадкі сіфілісу, у 2000 годзе было 10 527, зніжэнне, як бачым, на 22,7%. Што тычыцца ганарэі, то за 2001 год па Мінску зафіксавана 1 676 выпадкаў, у 2000 годзе – 1 678, па рэспубліцы ў 2001 годзе хварэлі 7 779, у 2000 было 9 887 выпадкаў, так што і тут значнае паніжэнне. Пік захворвання на сіфіліс, асноўную праблему венералогіі, прыйшоўся на 1996 год (па рэспубліцы ў цэлым – 21 616 чалавек). За наступныя пяць гадоў захворванне на сіфіліс знізілася ў 2,6 раза. Такая тэндэнцыя на дадзены момант стабільная, хаця ўзровень захворвання ўсё ж такі застаецца высокім.

***– Але чаму, на ваш погляд, самае распаўсюджанае захворванне – усё ж сіфіліс?***

– Гэта адна з найбольш складаных хваробаў, што да наступстваў: сіфілісная інфекцыя можа паражаць усе органы чалавека, перадавацца ад хворай маці да дзіцяці. Сацыяльныя наступствы сіфілісу больш значныя, хоць існуюць праблемы іншых істотных захворванняў, што перадаюцца палавым шляхам, але тыя, якія мы ў стане выявіць.

***– А як арганізаванае абследаванне і лячэнне? Паводле чутак, працэдура стала больш ліберальнай?***

– На сёньняшні дзень першасны агляд могуць праводзіць жанчыны – у гінеколага, мужчыны – ва уролага, калі ж узнікаюць пытанні па далейшым абследаванні, то накіроўваюць да нас. Лячэнне ў асноўным праводзіцца амбулаторна. На стацыянары хворыя лечацца па медыцынскіх накіраваннях, гэта значыць – іх лячэнне звязана з неабходнасцю знаходжання ў клініцы штодзень. У стацыянары нават з 80 ложкаў у венералагічным аддзяленні 35 – дзённага знаходжання: хворыя прыходзяць, атрымоўваюць лячэнне і ідуць дадому. Раней у нас венералагічнае аддзяленне было закрытага тыпу, дзе хворыя лячыліся пад аховай міліцыі. Цяпер гэта адменена. Ідэя гэткая ўзнікла падчас сіфілrandнага піку 1996 году, калі паступіла больш за 500 чалавек, ложкаў было каля 400, нам прыйшлося б выпісаць хворых на іншыя хваробы і пакінуць толькі на венерычныя.

***– Ці няма рызыкі, што праз такую вольнасць рост захворванняў павялічыцца?***

– Не, гэта не страшна, бо інфекцыя – не паветрана-кропельная. Калі чалавек захварэў, дык гэта ніяк не злачынства. Кожны з нас можа захварэць, але свядома распаўсюджваць сваю хваробу не стане. У судовай практыцы, наколькі мне вядома, не было ніводнай крымінальнай справы, што тычылася б заражэння ад хворага, які ведаў свой дыягназ. Калі раней у Крымінальным кодэксе быў артыкул за наўмыснае ўхіленне ад лячэння, то цяпер такога артыкулу няма. Па правах чалавека ў гэтым плане мы падцягваемся да нармальных еўрапейскіх стандартаў.

***– Раскажыце, калі ласка, пра альтэрнатыўнае абследаванне, на якое ёсць прэйскурант...***

– У нас ёсць кабінет ананімнага абследавання на выяўленне інфекцыяў, якія перадаюцца палавым шляхам. Туды звяртаюцца людзі, якія наўрад ці звярнуліся б, калі б ананімнасці не было. Яго мэта – максімальна прыцягнуць такіх людзей да лячэння і абследавання спецыялістамі. Упершыню ў Мінску такія кабінеты з'явіліся ў 1994 годзе. Можна абследавацца бясплатна, прадставіўшы дакументы, але часта гэта псіхалагічна ўздзейнічае. Акрамя змены рэжыму, былі ўведзены распрацаваныя на Захадзе новыя высокаэфектыўныя метады: новыя прэпараты, антыбіётыкі працяглага дзеяння, ад некалькіх дзён да трох тыдняў. Да таго ж такі метад зручны і для хворага: значная розніца, калі чалавек атрымлівае прэпараты праз тры гадзіны тры разы на суткі і раз на тыдзень.

***– Які ў вас узровень аказання дапамогі? Сюды прыязджаюць нават з іншых гарадоў. З чым гэта звязана?***

– Нашы дактары маюць прыстойны стаж і вопыт работы. Рэч яшчэ ў тым, што ў невялікіх гарадах усе адзін аднаго ведаюць, таму хворыя ахвотней едуць сюды, хаця такія дыспансеры ёсць і ў абласных цэнтрах. Мінулым годам да нас звярнулася каля 8,5 тысячаў пацыентаў на абследаванне, з іх каля 54% з выяўленымі венералагічнымі хваробамі.

***– Якія асноўныя прэпараты для лячэння сіфілісу вы выкарыстоўваеце?***

– Сіфіліс – гэта тая інфекцыя, што лечыцца паводле інструкцыяў, якія распрацоўваюцца вядучымі спецыялістамі Беларусі; у прыватнасці, інструкцыямі па лячэнні і прафілактыцы сіфілісу займаецца загадчык кафедры Беларускага дзяржаўнага медыцынскага універсітэту Валянцін Панкратаў.

***– Які найбольш «папулярны» ўзрост тых, хто да вас звяртаецца?***

– У адпаведнасці са шляхамі інфекцыявання гэта найбольш актыўная частка насельніцтва: 20-29 гадоў. У падлеткавым узросце пераважаюць дзяўчаты, што звязана з фізіялагічнымі асаблівасцямі, больш раннім пачаткам палавага жыцця. Іх аднагодкі хлопцы, падрастаючы, кампенсуюць гэта, іх нават становіцца больш.

***– Ці ўплывае на спад венерычных хваробаў інфармаванасць людзей? Як яна арганізуецца?***

– Мы вельмі стараемся інфармаваць насельніцтва. Таму з задавальненнем сустракаемся з прадстаўнікамі СМІ. Раней былі газеты для сексуальных меншасцяў, іншыя выданні такога плану, а гэта непасрэдны доступ для аўдыторыі, якая прадстаўляе пэўную групу рызыкі ВІЧ-інфікаваных. Праводзіцца праца са школьнікамі, педагогамі, працоўнымі, выхавацелямі і г.д. Сёлета пачала выдавацца спецыяльная літаратура. Выконваюцца спецыяльныя праекты з рознымі міжнароднымі арганізацыямі. А галоўнае правіла трэба ведаць кожнаму: пры хоць малым падазрэнні на небяспеку трэба зрабіць абследаванне. Любую хваробу няцяжка спыніць пры яе пачатку.

Гутарыла **Ірына ТОЎСЦІК**

# Сексуальны выбар замест натуральнага адбору



Не існуе ніводнага элементу ў нашай генетычнай спадчыне, які б, наўпрост ці ўскосна, не рабіў свайго ўнёску ў нашыя разумовыя здольнасці. У гэтым сэнсе ацэнка разумовых здольнасцяў чалавека раўназначная стану здароўя ўсіх яго генаў.

Мужчына або жанчына, прываблены розумам свайго партнёра, насамрэч несвядома прываблены выдатным станам ягонага генафонду. А значыць, інтэлект ува ўсіх яго формах і праявах развіваецца ў нашым відзе пад непасрэдным уплывам выбару партнёра, то бок сексуальнага адбору. Гэта сцверджанне англійскага псіхолага-эвалюцыяніста Джэфры Мілера, якое ён зрабіў у сваёй кнізе *«The mating mind»*. Талент і інтэлект, насамрэч, не адзіныя звесткі, якія ўключаюць у сябе шмат якія іншыя ды могуць функцыянаваць як індыкатары наяўнасці добрых генаў. Існуюць і іншыя звесткі, якія вартыя таго, каб стаць прадметам хай сабе несвядомага, але дальнабачнага сексуальнага выбару. Сапраўдныя героі кнігі – гэта менавіта сексуальны выбар і тая роля, якую ён граў апошнія два мільёны гадоў у мадэляванні і змяненні некаторых істотных характарыстык нашага віду, ад самых канкрэтных – як памеры частак цела – да найбольш абстрактных, як творчыя здольнасці, рамантызм, сумленнасць, пачуццё гумару, маральнасць. Аўтар прапануе пераасэнсаваць ролю сексуальнага адбору ў стасунку да натуральнага адбору, які ўжо разумеецца сам сабою, – хоць і ўсведамляе, што такі распадзел не цешыцца сёння вялікай папулярнасцю сярод прафесійных біёлагаў. Яго думка палягае ў тым, што, толькі дэталёва аналізуючы дзейнасць сексуальнага адбору, можна зразумець, чаму з'явіліся тыя ці іншыя характарыстыкі, уласцівыя выключна чалавеку. Каб зразумець гэтыя з'явы, цвердзіць ён, недастаткова аналізаваць толькі тое, што неабходна для выжывання канкрэтнага чалавека: трэба звярнуць увагу на яго здатнасць прыцягваць увагу партнёраў з добрым генафондам, а акрамя таго, здатных выгадаваць сваё патомства прынамсі да рэпрадуктыўнага ўзросту.

Гаворка ідзе пра вельмі смелыя гіпотэзы і больш ці менш праўдападобнае аднаўленне далёкай мінуўшчыны, калі людзі вельмі розніліся ад таго, што яны ўяўляюць сабою цяпер. Некаторыя з гэтых гіпатэтычных меркаванняў даволі хісткія і, магчыма, не вытрымаюць выпрабавання часам, але сама думка цікавая, а аргументацыя моцная. Да таго ж вельмі складана ўявіць сабе нешта больш адрознае ад звыклых штампаў, хай сабе паліткарэктных, але абмежаваных, якія не прадугледжваюць тонкае працы розуму.

**Corriere Della Sera, Італія**

**СПОРТ**

# Скасавалі кантракт

Напрыканцы мінулага тыдня выканкам Нацыянальнага алімпійскага камітэту Беларусі прыняў рашэнне аб скасаванні кантракта з генеральным дырэктарам спартыўна-аздараўленчага комплексу «Алімпійскі» Сяргеем Дзямковым. Прычынай сталі вынікі праверкі фінансава-гаспадарчай дзейнасці САК «Алімпійскі». Паседжанне выканкаму было адметным яшчэ адным скандалам. Віцэ-прэзідэнт НАК М.Ананьеў паведаміў, што раніцай 28 сакавіка С.Дзямкоў збіў яго сына. На гэта кіраўнік САК заявіў, што сын М.Ананьева, пагражаючы адвёрткай яго намеснікам, быццам бы заявіў: «Мой бацька ўчора дырэктара звольніў, а цяпер я тут гаспадар. Так, мне тэлефоны бясплатна падключаць, вон адсюль!». Паводле слоў М.Ананьева, стала прадпрымаюцца спробы скампраметаваць яго як дзяржаўнага чыноўніка (па сумяшчальніцтве ён з'яўляецца памочнікам прэзідэнта па пытаннях фізкультуры, спорту і развіцця турызму) і віцэ-прэзідэнта НАК.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Не забі!

## *Жаба, як і чалавек, створана Богам*

*На пачатку красавіка другі год запар у Беларусі праводзіцца акцыя пад назвай «Жабы на дарозе»: людзі ратуюць жабаў і рапух на шляхах іхніх вясновых міграцый. Калі ў 2001 годзе яна ладзілася ў адным толькі Бярэзінскім біясферным запаведніку, то сёлета яе геаграфія пашырыцца яшчэ і на Прыпяцкі нацыянальны парк.*



У адным запаведніку адмысловы лагер ратавальнікаў амфібій арганізоўваецца з 30 сакавіка па 5 красавіка, у другім – з 7 па 13 красавіка. Жабы гінуць пад аўтамабільнымі коламі на дарогах, што пралягаюць і ў іншых мясцінах, але тут усё ж запаведная зона, дзе паводле азначэння мусіць дзейнічаць ахоўны рэжым. Апрача таго, яшчэ не праведзена належных даследаванняў па выяўленні іншых участкаў, дзе назіраецца інтэнсіўная міграцыя жабаў і дзе яны падчас яе масава гінуць.

> Сёння стала вядома, што пад Петрыкавым, дзе засталося менш за ўсё ў Беларусі жабаў, будзе створаны герпеталагічны заказнік. Тут плануецца гадаваць у вялікай колькасці жабаў і выпускаць іх у прыродные асяроддзе па ўсёй краіне, каб павялічыць папуляцыю гэтых земнаводных. У заказніку будзе створаны аддзел, спецыялісты якога зоймуцца пошукамі надта пладавітых жабаў. Такіх асобінаў адловяць і перавязуць у заказнік, дзе для спрыяння іхняй пладавітасці стануць карміць мексіканскімі камарамі.

«Зялёныя» добраахвотнікі будуць дзяжурыць на некалькіх кіламетрах дарог, што праходзяць праз гэтыя заказнікавыя тэрыторыі. Уздоўж шашы расставяць спецыяльную паўметровую сетку, якая будзе спыняць жабаў, што зlarахочуць перапраўляцца цераз дарогу ад месца размнажэння да месца зімоўкі. Пасля гэтага людзі будуць браць і пераносіць гэтых рэптылій з аднаго боку дарогі на другі на руках. Гэтак смерці пад коламі легкавікоў і грузавых машын пазбегнуць сотні жабаў.

Нашто гэта трэба? Жабы досыць карысныя істоты. Хоць бы тым, што ядуць шкодных насякомых, якія складаюць да трох чвэрцяў усяго іхняга корму. Жабы – добрыя дапаможнікі бульбаводаў. За суткі шэрая жаба спажывае да 40 каларадскіх жукоў і іхных лічынак. Галавасцікі, што ядуць водарасці, ачышчаюць тым самым вадаёмы.



Нарэшце, жабкі – проста важнае прыроднае звяно. Напрыклад, гэта ласунак для чапляў і бусloў. Скарачаецца колькасць жабаў – і ў іх з'яўляюцца праблемы з харчаваннем. А якраз пра пагрозу знікнення буслоў і чапляў, што занесены ў Чырвоную кнігу, у нас шмат гаворыцца. Нездарма ў валанцёрскіх «жабіных» лагерах чынны ўдзел бярэ арганізацыя «Ахова птушак Беларусі». Карацей, ратаванне жабаў – не дурнота і не прыхамаць.

У Еўропе ратаванне жабаў ужо нікога не дзівіць. Там гэта ўжо досыць распаўсюджаны занятак, у якім актыўна ўдзельнічае і мясцовае насельніцтва, а не толькі спецыялісты. Рэч у тым, што амаль ва ўсіх еўрапейскіх краінах папуляцыі жабаў і рапух, у адрозненне ад Беларусі, скараціліся надзвычайна. Таму тут у пару міграцыі гэтых земнаводных на дарогах ставяцца адмысловыя папераджальныя знакі для кіроўцаў, а ў Даніі наагул часова закрываецца да 6 тысяч кіламетраў дарог. Апрача таго, для жабаў будуюць спецыяльныя пераходы пад дарогай. Часта да іх на невялікім участку дарогі ўсталёўваюцца бетонныя плоцікі, што выконваюць функцыю своеасаблівай збіральнай варонкі, якая быццам бы сама сабой накіроўвае жабаў у гэтыя пераходы.

Нашыя дарожнікі таксама не супраць рабіць такія пераходзікі, аднак жа – беднасць. Са словаў навуковага супрацоўніка лабараторыі ландшафтнай экалогіі сектара герпетафауны Акадэміі навук Руслана Навіцкага, неактыўнае спрыянне людзей бяспечнай міграцыі жабаў у Беларусі тлумачыцца не толькі гэтым: і не такая ў нас, як у Еўропе, развітая інфраструктура дарог, і саміх рэптылій нашмат болей, чымсьці ў іншых краінах Еўропы. Але лепш гэтай экалагічнай праблемы не дапусціць, ці не праўда? Пакуль у нашай Чырвонай кнізе прапісаная толькі чаротавая жаба.

**Кірэй МАНУЙЛА**

> **Даведка НАШАЙ СВАБОДЫ**
>
> У Беларусі на адзін гектар прыпадае 50 жабаў. Максімум – 3 000. Жабы жывуць каля 10 гадоў, рапухі – да 35 гадоў. Самая буйная рапуха ў нашай краіне – азёрная, што вырастае да 13-14 см. Наагул у свеце самая буйная парода – гэта галіяф, які есць нават мышэй і сягае 30 см. Меліярацыя нанесла непапраўныя страты жабам Беларусі. Асушэнне балот, апроч шкоднага ўплыву на водны баланс краіны і на глабальны клімат, адбілася і на іншых жывёлах, злучаных з жабамі ў прыродны ланцуг.

# Астралагічны прагноз

## ад Веранікі Кудраўцавай на 1 – 7 красавіка

***Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.***



**АВЕН.** Вашыя самотныя спробы справіцца з хібамі заканадаўства менш рэзультатыўныя, чым «калектыўны розум» ці падтрымка адваката. Мае поспех камандная гульня. Вашае імя на вуснах, верагодна СМІ пацешаць сваёй увагай ці паездкі па справах прынясуць папулярнасць сярод калегаў, і ўсё гэта дапаможа набыць неабходную групу падтрымкі.



**ЦЯЛЕЦ**. Некаму не па душы ваш уплыў, што паступова расце, поспехі ў кар'еры. Значыць, лёгкія інтрыгі паказытаюць самалюбства. Выкладчыкі ці юрысты звярнуць на сябе ўвагу, і вы даведаецеся, дарма ці не аддадзіце на іх час. Можна дазволіць сабе невялікі адпачынак, паколькі ёсць шанец звароту вам даўгоў, спакою на працы.



**БЛІЗНЯТЫ**. Перадольвайце прыступ марнатраўства ў аўторак, бо каханне вялікіх камбінатараў для вас стратнае. У чацвер раней задуманыя планы і праекты, што ўключаюць у сваё кола дастатковую колькасць людзей, гатовыя атрымаць нечаканую падтрымку. Можна будзе сабраць неабходныя подпісы. Далёкія паездкі ў другой палове тыдня дабратворна адбіваюцца на хатняй абстаноўцы.



**РАК**. Як бы вы ні хавалі сваіх сапраўдных мэтаў, інфармацыя ці таемная сустрэча атрымае агалоску, а вы схільны змагацца з ветракамі. Можа быць, і не варта, лепей ведаць сабе цану. Не выключана, што ў сувязі з нагадваннем пра сябе імідж можа афарбавацца і ў светлым адценні. Гэта залежыць ад заслуг у мінулым. У нядзелю свет ужо здаецца рознакаляровым.



**ЛЕЎ**. Узгадненне дакументаў трохі тармозіць працоўны працэс. Дый за станам здароўя пажадана сачыць. Тым не менш, вы пачынаеце адчуваць перспектыву ў другой палове тыдня. Некага лёс выводзіць на шырокую аўдыторыю. А ў нядзелю – моцны ўсплёск артыстызму, натхнення, можна адшукаць «будан» на гэты дзень дзеля раю з каханым ці дзіцем.



**ПАННА**. Нешта вы не задаволены атачэннем, тымі, хто набіваецца ў сапраўдныя сябры. Раскрываецца нейкая таямніца, верагодна – паміж вамі і дзецьмі. Але непрыемныя адчуванні хутка зменяцца. Не прапусціце ў чацвер шанец падняцца па службовай лесвіцы, падпісаць важныя дакументы па доўгатэрміновай задачы. У нядзелю сустрэча з прыцягальнымі людзьмі напоўніць жыццёвымі сіламі.



**ШАЛІ**. Павінен жа нехта вярнуць вас ва ўлонне сям'і. Калі няма гатовасці, то вас зацягнуць такія самыя праблемы ў іншых. Напачатку шмат што бачыцца ў фармальным святле, але затым жыццё пачынае бурліць пачуццямі, клопатам, надзейнасцю і абяцае нямала радасцяў. Глабальны праект афармляецца дакументальна, у чацвер падпісвайце дакументы.



**СКАРПІЁН**. Вы ўсе разгадваеце шарады на працы, часта юрыдычнага ці бюракратычнага характару, прымаеце дробныя тэхнічныя ганьбаванні, што адбірае нямала сілаў. Але будзеце ўзнагароджаны, нават зможаце адпачыць. Чацвер ідэальна пасуе для аздараўленчых ці медыцынскіх працэдураў. У другой палове тыдня ў доме пануе камфорт і ўтульнасць, квітнее душа ад сямейнага цяпла.



**СТРАЛЕЦ**. Любоўныя драмы і творчыя пошукі – не самае горшае баўленне часу. На працы ў сераду з'яўляецца незадаволенасць аплатай, але будзе нагода пераключыць настрой на больш прыемныя рэчы. Досыць буйныя мерапрыемствы, што маюць адносіны да сямейных ці грамадскіх справаў, на дзіва могуць аказацца перспектыўнымі і радаснымі для сэрца.



**КАЗЯРОГ**. Усе думкі пра дом, пра вечныя каштоўнасці. Вы нагадваеце будаўніка, які закладае падмурак будыніны, якіх бы сфераў жыцця гэта ні тычылася. Хай вас не бянтэжыць пачатак тыдня, які быццам «кульгае». Ужо ў чацвер вы можаце дасягнуць максімальнага поспеху, а таксама знайсці заслужаныя грошы ў кашальку. Нехта ў нядзелю атрымлівае асалоду ад шлюбу па каханні.



**ВАДАЛІЎ**. На працы – плёткі пра стан справаў, якія стымулююць думкі пра пошук альтэрнатыўных варыянтаў. Ва ўсякім разе, карысна своечасова мець «запасны аэрадром». Вы зносіцеся з цудоўнымі і салíднымі людзьмі, і не выключана, што раптам адчуеце да некага асабістую сімпатыю. Вясна ўваходзіць у ваш дом.



**РЫБЫ**. Вашая асноўная задача – паправіць здароўе, супакоіць блізкіх сваёй прысутнасцю і ўдзелам. Усіх грошай не збераце, але і пакутаваць у матэрыяльным плане не будзеце. Тая ідэя, якую вы трымалі ў таямніцы, можа атрымаць сваю рэалізацыю. Калі душа ад кахання гарыць – значыць, гэта камусьці трэба. Калі не, паглядзіце, як гэта адбываецца ў вашых дзяцей.

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1140 Нумар падпісаны ў друк 31/03/2002 (15:00) Наклад – 7.760